ЗОРКА
ДАЛАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 49 (358) 6 снежня 1964 г.

# ДА ЧАГО ЗДОЛЬНЫ ЧАЛАВЕК

Аднойчы за Васем пагнаўся злы сабака. Вася кінуўся ўцякаць. І раптам дарогу перагарадзіла яму шырокая канава. Вася, не затрымліваючыся, пераскочыў яе. Сабака дабег да канавы, спыніўся, пастаяў і павярнуў назад. Відаць, падумаў, што не пераскочыць яе.

Выпадкова гэта бачыў школьны спартыўны суддзя Кастусь. Ён памераў рулеткай шырыню канавы і сказаў:

— Рэкорд школы! Малайчына, Вася! Патрэнеруешся яшчэ і паб'еш рэкорд павета.

Але рэкардсмена з Васі не выйшла. Аказваецца, чалавек мае вялікі патэнцыяльны запас энергіі, які праяўляецца толькі тады, калі чалавек знаходзіцца ў асаблівым душэўным стане.

# РАНІШНЯЯ ГІМНАСТЫКА

Паднімі палку. Пераступі палку. Павярніся направа, павярніся налева

Нахіліся ў адзін бок, а потым у другі.

Паднімай палку ўсё вышэй і вышэй. Пераскокні праз палку.

Адрас рэдакцыі: Białystok, ul. Wesołowskiego 1 „Zorka"

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

# ПЕШАХОД

Пасажырам чалавек бывае да таго часу, пакуль едзе ў аўтобусе. Але як толькі ён пад'язджае да свайго прыпынку і саскаквае з падножкі, ён ужо не пасажыр.

Мы з мамай выйшлі з аўтобуса і хацелі перайсці на другі бок вуліцы. І раптам нейчы моцны голас сказаў:

— Пешаходы, не забывайце аб правілах перахода вуліцы!

Мне здалося, што гэтыя словы сказаў велікан — такі ў яго быў моцны голас. Я пачаў глядзець па баках і шукаць велікана.

Але замест велікана я ўбачыў машыну з двума гучнагаварыцелямі на даху.

Мама пацягнула мяне за руку і сказала:

— Хадзі! Усе пешаходы пайшлі!

Тады я пачаў шукаць пешаходаў. Я думаў, што пешаходы — гэта такія скараходы, што ходзяць хутчэй за аўтобусы. Але пешаходаў не было відаць, усе ішлі звычайным крокам.

І раптам машына сказала:

— Пешаходы, заканчвайце пераход. Прапусціце транспарт.

Усе спыніліся. І мы з мамай таксама.

— Дзе пешаходы? — запытаўся я.

— Ты сам пешаход, — адказала мама. — Усе, хто ходзіць пешшу, — пешаходы.

Мне было прыемна, што я не проста хлопчык, а пешаход, таму што слова «пешаход» падобнае да слова «скараход». А быць скараходам — гэта здорава! Нават лепш, чым пасажырам.

# ГЛЯДАЧ

У тэатры лялек, лялькі не толькі зачыняюць вочы і гавораць «мама». Тут яны бегаюць, скачуць, размахваюць рукамі і гавораць чалавечым голасам. Нават лялькі-сабакі не толькі брэшуць, але і пытаюцца: «Як вы жывеце?»

У тэатры усіх, акрамя лялек, называюць гледачамі. Калі гавораць: «Добры дзень, дарагія гледачы!» — усе дзеці крычаць: «Добры дзень!»

Калі гавораць: «Дарагія гледачы, сядзіце ціха», усе на хвілінку зачыняюць раты і перастаюць званіць цумаркамі.

Ніхто дзецям не гаварыў, што яны гледачы. Усе здагадаліся самі. І я таксама.



Рыхтуемся да Навагодняй ёлкі

# Спрэчка чараўнікоў

Байка ў адной дзеі.

Дзеючыя асобы:

**Ягорка** — камандзір карабля «Казка»
**Ніна** — штурман
**Чараўнік** — звычайны чалавек
**Сястрыца Адун** (нуда)
**Сястрыца Атонял** (лянота)
**Дамавік** — злы чараўнік, ён жа паштальён, лесаруб і дворнік.
**Снягурачка**
**Дзед Мароз**

Занавес закрыты. Раптам чуецца моцны грукат, як гром. Святло на хвіліну гасне. А калі запальваецца, перад занавесам стаіць чалавек у звычайным адзенні. Ён малады і вясёлы, усміхаецца.

**ЧАРАЎНІК.** Вось і я! Праўда, маё з'яўленне не абышлося без шуму. Але паспрабуйце знайсці чараўніка, які згадзіўся б з'явіцца інакш. Э-гэ-гэ! Я бачу некаторыя з вас недаверліва ўсміхаюцца. Не верыце, што я сапраўды Чараўнік? Клянуся чароўнай палачкай! Вы не разумееце, чаму я ў звычайным адзенні? Але ж цяпер чараўнікі разгульваюць сярод нас у звычайных пінжаках. Тс-с-с... Я чакаю на аднаго хлопчыка, якому вельмі спатрэбіцца мая дапамога. (Глядзіць на гадзіннік). Ён заўсёды спазняецца, а я спяшаюся! Ага. Я маю чароўную палачку. (Нешта шэпча, узмахвае палачкай).

Музыка. Перад занавесам выбягае, запыхаўшыся, Ягорка.

**ЯГОРКА.** Нічога не разумею! Хацеў глядзець здымкі каля кіно. А ногі раптам самі сюды пабеглі! (Заўважыў Чараўніка і што той смяецца). — Гэта вы з мяне смяецеся?

**ЧАРАЎНІК:** Не злуйся, Ягорка.

**ЯГОРКА.** (Здзіўлена). А вы мяне ведаеце?

**ЧАРАЎНІК.** Камандзіра і галоўнага канструктара карабля ўсе ведаюць!

**ЯГОРКА.** А хто вы такі?

**ЧАРАЎНІК.** Чараўнік.

**ЯГОРКА.** Ча-раў-нік? А што вы ўмееце рабіць? Можаце зрабіць так, каб тут з'явіліся, напрыклад...

**ЧАРАЎНІК.** Хто, напрыклад?

**ЯГОРКА.** Ніна, напрыклад.

**ЧАРАЎНІК:** Штурман хуткаснага карабля? Калі ласка.

Чараўнік узмахвае палачкай, нешта шэпча. Выбягае Ніна.

**ЯГОРКА.** Ніна! Куды ты?

**НІНА.** Ой! Ногі самі нясуць. Убачымся на караблі! (Выбягае).

**ЯГОРКА.** Вось здорава! Дзе б купіць чароўную палачку?

**ЧАРАЎНІК.** Яна не прадаецца. Ідзі ў лес. Сваімі рукамі зрубі дрэва, ачысці ад галін і стругай да тае пары, пакуль не атрымаецца вось такая тонкая палачка.

**ЯГОРКА.** Абстругаць цэлае дрэва? Яшчэ чаго! Цяжка...

**ЧАРАЎНІК.** Не хочаш, каб я табе дапамог?

**ЯГОРКА.** Вось каб наш хуткасны карабель... (Спахапіўшыся). Але што я? Гэта ж таямніца! Да пабачэння, я вельмі спяшаюся! (Выбягае).



**НОВАРАСІЙСК**

**Савецкі чарнаморскі порт Новарасійск называюць інакш варотамі паўночнага Каўказа. Заходзяць сюды судны з усіх канцоў свету.**

**На здымку: савецкае судна «Партызан Банівір» ля набярэжнай порта ў Новарасійску.** (а-лів)

# Тэлевізар і здароўе дзіцяці

Многія дзеці занадта шмат часу праводзяць перад тэлевізарам, што можа пашкодзіць іх здароўю.

Вучань пасля школы павінен адпачыць. Такі адпачынак знаходзіць ён у гульнях, спорце, нават у фізічнай працы. Гэта ўзмацняе яго сэрца, дае радасны і больш вясёлы настрой. Спорт вельмі карысны маладому арганізму — развівае добрую яго загартоўку, хуткія рэакцыі, умацоўвае нервовую сістэму.

Ну, а калі вучань адразу пасля школы «прыліп» да тэлевізара? Дарослыя, вядома, задаволеныя, бо спакайней у хаце. Аднак, каб глядзець тэлевізійную перадачу, патрэбна пэўная напружанасць. Такая напружанасць пасля доўгіх школьных урокаў кепска адбіваецца на здароўі дзіцяці і, перад усім, псуе яго нервовую сістэму. Дзіця стаецца больш выбуховым, раздражненым, горш спіць, ранкам цяжэй яму ўставаць, робіцца сонным на ўроках.

Мо' дзецям зусім не трэба глядзець тэлевізійных перадач? Не, дзеці павінны глядзець іх, яны патрэбны ім, але ўмеру. Найлепшы час — гэта святочныя нядзелі, канікулы, а ў будні не адразу пасля ўрокаў. Глядзець усе тэлевізійныя перадачы шкодзіць здароўю не толькі малых, але і дарослых. Найляпей, калі ў сям'і глядзяць тэлевізар не часцей чым 3—4 разы ў тыдзень. Тады знаходзіцца патрэбны час і на іншыя справы, якія часта занядбоўваем з прычыны тэлевізара.

Найменш шкодныя дзіцячаму арганізму спецыяльныя перадачы для дзяцей — розныя мультфільмы, байкі і т.п. Яны цікавыя для дзіцяці і не патрабуюць асаблівай разумовай напружанасці. Другія перадачы, як усякія гутаркі, лекцыі, рэпартажы — мала зразумелыя для дзіцяці, хутка стамляюць яго.

Дзеці нервовыя не павінны ўвогуле глядзець тэлевізійных праграм. Гледзячы тэлевізар яны нервуюцца, моцна перажываюць, потым не могуць супакоіцца, есці, заснуць, ад таго, што іх устрывожыла на сінім экране.

На гадзіну перад сном трэба выйсці з тэлевізійнага сеанса, таму што нават моцныя дзеці рэдка не нервуюцца ў час агляду таго, што бачаць на экране. Малышы дашкольнага ўзросту могуць глядзець тэлевізар не даўжэй, чым 20—30 мінут, а школьнікі не даўжэй, чым адну гадзіну.

Часамі можна пачуць, што нібы тэлевізар шкодзіць на вочы. Калі тэлевізар працуе ў неасветленым памяшканні, тады сапраўды наш зрок хутка стамляецца, слязяцца вочы. Трэба, каб побач тэлевізара гарэла нейкая лямпачка (начная), але яе святло не павінна адбівацца ані на экране тэлевізара, ані на лініі нашага зроку. Найляпей такую лямпачку прыкрыць абажурам, каб кідала бляск на падлогу ці сцяну.

Нармальна гледзячы тэлевізар трэба сядзець ад яго ў адлегласці не меншай чым два метры, а найляпей у адлегласці пяці метраў. У кожным выпадку адлегласць паміж экранам і нашымі вачыма не павінна быць меншай, чым **велічыня экрана памножаная пяць разоў.** Напрыклад, перад тэлевізарам з экранам 17 цаляў мы павінны сядзець не бліжэй чым у адлегласці 85 цаляў — гэта значыць, у адлегласці больш-менш каля двух метраў.

Статыстыка паказвае, што лічба блізарукіх людзей, асабліва вучняў у гарадах, хутка павялічваецца. Хаця тэлевізар, мабыць, не найважнейшая ў гэтым прычына, але факт застаецца фактам: аказваецца, што сярод блізарукіх вучняў вельмі многа заўзятых аматараў тэлевізіі.

Маем дачыненне таксама і з іншымі фактамі: заўзятыя аматары тэлевізійных праграм часта кепска вучацца ў школе, прыходзяць з неадробленымі ўрокамі, не памятаюць таго, чаго вучылі іх учора, пазаўчора.

Тэлевізар як і ўсё іншае, вельмі добрая і карысная рэч, але калі, так сказаць, ужываецца яго ўмеру.

Чаго замнога то нават і п'яніца не вытрымоўвае.

(СЯ)

# СКРОЗЬ ЗЯМЛЮ ПРАВАЛІЛАСЯ...

Яшчэ раніцай паміж Верхнімі і Ніжнімі Пянькамі — вёскамі Кунгурскага раёна Пермскай вобласці знаходзілася невялікае азярцо і раптам — к абеду яно знікла. Як скрозь зямлю правалілася! Не абышлося і без другога кур'ёзу. Разам з азярцом прапалі парасяты, якія хадзілі паблізу. Жыхары вёсак пайшлі шукаць прапажу ў ямцы, якая засталася на месцы азярца, і пачулі з-пад зямлі парасячы піск. Два калгаснікі адважыліся спусціцца на дно глыбокага калодзежа. На глыбіну двух дзесяткаў метраў абвал ускрыў скляпенне велізарнай пячоры.

Вядомы ўральскі спелеолаг Аляксандр Турышаў лічыць, што правал тлумачыцца дзеяннем падземных вод, якія раствараюць даволі значныя ў гэтых месцах залежы вапнякоў і гіпсу. У зямлі ўтвараюцца пустоты, якія і служаць прычынай абвалаў.

## Ці ведаеце...

...што людское сэрца важыць няпоўных 500 грамаў, але патрапіць выконваць працу, якой хапіла б, каб на працягу 10 мінут паднесці чалавека вагою 65 кілаграмаў на вышыню 10 метраў.

...што кожная тона марской вады мае каля 50 міліграмаў золата. Каб падзяліць усё золата, якое знаходзіцца ў марах і акіянах, паміж жыхараў Зямлі, то кожны з нас атрымаў бы каля 35 тон каштоўнага метала.

## Хуткі як думка?

Не, яна не такая ўжо хуткая: прабягае з хуткасцю толькі 241,35 км на гадзіну. Параўнайце гэта хаця б з хуткасцю касмічных караблёў.

(а-лів)

**ПОМНІК ГЕРОЮ**

**У мясцовасці Вальева ў Югаславіі нядаўна быў адкрыты помнік Стэфанові Філіповічаві. Яго расстралялі нямецкія акупанты. Філіповіч з'яўляецца героем ІІ сусветнай вайны.** (а-лів)



**•аляксей карпюк•**

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

**У жніўні 1941 года зайшоў я ў Гарадок, каб пра штонебудзь даведацца. У былым памяшканні польскай паліцыі цяпер знаходзілася вайсковая камендатура. Ля ганка шырока расставіў ногі вартавы, — юнак у начышчаных да бляску ботах, у нагавіцах, адпрасаваных на кант; салдат ззаду прытрымліваў бліскучы прыклад, бяспечна пагсйдваў каленам, паціху свістаў нейкую салдацкую песню.**

**На прыступках ганка тырчаў фельдфебель — шчуплы, невысокі, бялявы. Вялікія пальцы засадзіў сабе за папругу, астатнімі выбіваў рытм. Сабраны, згорблены, з рашучым тварам — нібы драпежная птушка, якая сабралася да ўзлёту.**

**— Тпр-р-р! — супраць камендатуры спыніў каня солтыс з вёскі Пілатоўшчыны.**

**За солтысам на сене выцягнуўся няголены, ускалмачаны мужчына. Так ляжаць на возе хворыя, калі іх вязуць у бальніцу. Толькі гэты быў не накрыты, і патыліца яго пакоілася на брудным мяшку з саломай. На тратуары адразу сабраўся натоўп.**

**Селянін злез з воза, зняў шапку і з павažаннем звярнуўся да фельдфебеля па-польску:**

**— Пане амтскамісару, вось той самы канакрад, што ноччу вывозіў нашых коней...**

**Немец нібы прачнуўся і ўбачыў селяніна. Нахмурыў бровы, а натоўп цікавых паклікаў пажылога яўрэя. Пакуль той перакладаў словы дзядзькі, я з жахам разгледзеў, што чалавек на возе не хворы, а звязаны!**

145

**— Hier bringen![1] — гыркнуў фельдфебель.**

**Солтыс узяўся развязваць канакрада. Перашкаджала шапка, дзядзька надзеў яе на ручку воза, прыступіў да работы дзвюма рукамі. Немец усё глядзеў, наліваўся злосцю. Солтыс скончыў кешкацца, з папрокам сказаў:**

**— То злазь ужо, Мікодым.**

**Канакрад толькі ногі меў свабодныя. Ён няўклюдна стаў на калені, жыватом лёг на дручок ад драбіны, валіўся з воза і атрос на брук сена. Дробны і аброслы рэдкім шчаціннем тварык чалавека неяк дурнавата і бяспечна ўсміхаўся, вочы разгублена забегалі навокал; невялічкая фігурка апранута ў саматканае старое шмаццё, чаравікі засохлыя, без шнуркоў, з вываленымі языкамі.**

**— Komm hier![2] — немец ткнуў пальцам перад сабою.**

**Чаравікі пустацела застукалі па бруку.**

**Перад ступенькамі чалавек спыніўся. Галава яго была на ўзроўні фельдфебелевых грудзей. Немец зморшчыўся, быццам перад ім — агіднае насякомае, што выпаўзла з гною, і з дзвюх рук выцяў канакрада па твары — плясь! - плясь!**

**— Willi! — гыркнуў, — bringe diesen Lump zum judischen Friedhof und mache schlub mit ihn![3]**

**Вартаўнік абцягнуў мундзір, паправіў пояс, скінуў з пляча карабін, лянівa піхнуў руляй канакрада.**

**— Vorwarts![4]**

**Але чалавек не разумеў, што з ім хочуць зрабіць. Ад удару толькі пахіснуўся, пераступіў з нагі на нагу і зноў дурнавата ўсміхнуўся.**

**— Gehe![5] — без злосці піхнуў яго салдат у наш бок другі раз.**

**Солтыс адкрыў рот, каб нешта дадаць не то камісару, не то канакраду, але раздумаў. Толькі паківаў з жалем галавой, насунуў шапку, палез на воз.**

**— Ну-у! — ударыў ляйчынай каня.**

146

**Салдат з канакрадам наблізіліся да месца, дзе стаяў я. Загіпнатызаваны натоўп з жахам расступіўся, каб іх прапусціць. На чалавека, якога меліся праз хвіліну расстраляць, глядзеў я з жаласцю і жудаснай цікавасцю. Твар зусім маладога мужчыны, з ружовымі мясцінамі, дзе пабывала рука фельдфебеля. На галаве — цёмна-русыя лохмы, здаецца, не цыган. У вачах — ужо трывога і дзікія распачлівыя бляскі. Дзівак, нават у ваенны час не мог пакінуць сваіх звычак, навошта яму здаліся цяпер тыя коні? Хто іх купляе сёння?..**

**—Willi, warte mal![6] — пачуўся ад ганка камісараў крык.**

**Салдат карабінам стрымаў арыштанта:**

**— Zum Befehl, Herr Kommandant![7]**

**— Zuerst bringe ihn zur Polizei. Lass ihn dort Hundert Prügeln auf Arsch![8]**

**— Jawohl, Herr Kommandant![9]**

**— Aber fest![10]**

**— Es wird erfühllt sein, Herr Kommandant![11]**

**— Los!**

**Толькі тады я і бачыў гарадскога амтскамісара. Затое майму бацьку спатыкацца з ім даводзілася не раз.**

---

[1] — Падаць сюды!
[2] — Хадзі сюды!
[3] — Вілі, завядзі гэтую дрэнь на яўрэйскі могільнік і прыконч яго!
[4] — Упярод!
[5] — Ідзі!
[6] — Вілі, пачакай!
[7] — Слухаю вас, пане камендант!
[8] — Спачатку завядзі яго ў паліцыю, няхай там яму адмераюць сто кіёў!
[9] — Будзе выканана, пане камендант!
[10] — Але ж як належыць!
[11] — Будзе выпаўнена, пане камендант!

147

